



# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

1 сакавіка 2019 года №9 (1244) 18+


# На Валожыншчыне працягнуць вырашаць праблему безбар'ернасці

25 лютага ў Валожыне падпісалі стратэгію па ўвасабленні Канвенцыі ААН аб правах людзей з інваліднасцю

старонка 2

На фота – Сяргей ДРАЗДОЎСКІ, дырэктар Офіса па правах людзей з інваліднасцю. Фота забяспечанае арганізатарамі інклюзіўнага фэсту.







## Якія дарогі адрамантуюць у рэгіёне

старонка 3

## Чаму ў Вілейцы вакансій шмат, а працу знайсці няпроста

старонка 21

ISSN 1991–7155




Адсканюйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



# Безбар'ернае асяроддзе – агульная праблема для ўсіх рэгіёнаў

## У Валожыне падпісалі стратэгію рэалізацыі Канвенцыі ААН аб правах людзей з інваліднасцю

ВАЛОЖЫН

**У панядзелак, 25 лютага, у Валожыне падпісалі стратэгію вырашэння праблем, звязаных з інваліднасцю.**




Злева направа: Сяргей Драздоўскі, дырэктар Офіса па правах людзей з інваліднасцю і Ігар Шакун, намеснік старшыні Валожынскага райвыканкама па пытаннях сацыяльнай сферы і ідэалогіі падпісваюць дакумент.

Стратэгія – вынік сумеснай працы грамадскіх арганізацый, сацыяльных устаноў, мясцовых уладаў і саміх людзей з інваліднасцю. Дакумент будзе дзейнічаць у 2019-2020 гадах.

Стратэгію падрыхтавалі падчас вялікай кампаніі Офіса па правах людзей з інваліднасцю «Павестка 50». Валожын стаў чацвертым горадам у краіне, дзе прынялі падобны план.

– Беларусь у 2015 годзе падпісала Канвенцыю аб правах людзей з інваліднасцю. Тады ж прынялі план па яе рэалізацыі на ўзроўні Беларусі. Але план быў агульны, не ўлічваў рэгіянальных асаблівасцяў, – кажа **Ксенія Тарасевіч**, прэс-сакратар Офіса па правах людзей з інваліднасцю. – Тады ў межах ініцыятывы «Павестка 50» абралі пяць раёнаў і вырашылі скласці план па кожным з іх. Працавалі паўтара года, арыентаваліся на польскі досвед.

Падтрымлівае Ксенію і **Сяргей Драздоўскі**, дырэктар Офіса па правах людзей з інваліднасцю – арганізацыі, якая разам з партнёрамі каардынавала напісанне мясцовай павесткі ў Валожыне.

– У Беларусі спачатку пішуць вялікія агульныя планы на ўсю краіну, не заўсёды абапіраючыся на ўнікальны досвед рэгіёнаў і мясцовую спецыфіку, – кажа Сяргей. – Здаецца, што Беларусь краіна маналітная, але ўсё роўна ў кожным раёне ёсць свае асаблівасці. І прыярытэты ўсюды розныя. Толькі адзін агульны – безбар'ернае асяроддзе.

Па словах Сяргея Драздоўскага, мясцовую павестку ў Валожыне зрабілі ў адпаведнасці з еўрапейскім падыходам – яна ўлічвае мясцовыя асаблівасці.

У дакуменце выклалі асноўныя праблемы, звязаныя з інваліднасцю ў Валожыне і раёне. Таксама там прапісалі план, які дапаможа вырашыць гэтыя праблемы.

Па словах стваральнікаў дакумента, галоўны крытэрам кожнага пункта была яго выканальнасць. І практычна кожны пункт вельмі доўга абмяркоўвалі.

Мясцовая павестка – гэта не нарматыўна-прававы акт. Яго падпісанне – гэта хутчэй джэнтльменскі дагавор, адзначае Сяргей Драздоўскі. Ён падкрэслівае, што пакарання або санкцый за невыкананне плана не будзе.

**Мясцовая павестка – гэта дакумент, які дапамагае выконваць палажэнні Канвенцыі ААН на мясцовым узроўні. Гэта значыць, што дакумент складзены мясцовымі жыхарамі, а таму ўлічвае мясцовую спецыфіку і павінны вырашаць мясцовыя праблемы.**




Мясцовая павестка напісаная на беларуска мове.

### Як рыхтавалі мясцовую павестку

Праца доўжылася паўтара года пры ўдзеле польскіх экспертаў з фонду TUS, якія распрацавалі метадалогію «22 крокі» па ўкараненні Канвенцыі на месцах. Польскі досвед быў блізкі беларускім рэаліям.

Першым крокам кампаніі «Павестка 50» стала вызначэнне гарадоў, дзе будуць рэалізоўваць кампанію. Абралі пяць гарадоў. Адным з іх стаў Валожын.

Наступным крокам стала правядзенне круглага стала, падчас якога прадстаўнікі Офіса па правах людзей з інваліднасцю прапанавалі валожынцам паўдзельнічаць у кампаніі.

– Валожын дзякуючы вялікаму досведу быў вельмі адкрыты да супрацоўніцтва, – распавядае каардынатар кампаніі «Парадак 50» **Міхаіл Мацкевіч**.

Падчас рабочых сустрэч, у якіх прымалі ўдзел сацыяльныя службы (ТЦСАН), падрыхтавалі дакумент.

**– Людзі, якія працавалі над павесткай, адзначалі, што працэс быў вельмі важны для іх. Бо ў такім фармаце людзі ніколі не збіраліся,**

– падкрэслівае Міхаіл Мацкевіч.

Мясцовыя павесткі напісалі простай мовай для таго, каб любы ахвотны мог зразумець сутнасць дакумента і задаць пытанні яго складальнікам і рэалізатарам, уключыцца ў працэс.

Адна з аўтараў павесткі псіхолаг Валожынскага ТЦСАН **Алена Жданюк** распавяла, што перад падпісаннем дакумента рабочая група сустракалася з людзьмі з інваліднасцю і іх блізкімі, дзе прэзентавала чарнавік дакумента і атрымала рэкамендацыі ад іх.

### Што ў дакуменце

У плане адлюстраваныя асноўныя праблемы, звязаныя з інваліднасцю ў Валожынскім раёне. Гэта дыскрымінацыя дзяцей з інваліднасцю, адсутнасць безбар'ернага асяроддзя, праблемы з працаўладкаваннем, недасведчанасць пра свае правы і адсутнасць рамонту ва ўстановах рэабілітацыі.

Каб пераадолець гэтыя праблемы, мясцовыя актывісты будуць праводзіць інфармацыйныя кампаніі, інклюзіўныя мерапрыемствы, займацца стварэннем безбар'ернага асяроддзя, арганізоўваць трэнінгі асобаснага росту.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота Максіма ЦІХАНАВА.

У Вілейцы рамонт патрэбны не толькі на аўтадарогах, але і на дваровых тэрыторыях. Мясцовыя жыхары са скаргамі дайшлі да Адміністрацыі прэзідэнта.

# Якія аўтадарогі плануюць адрамантаваць у рэгіёне сёлета

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА
МЯДЗЕЛ
ВАЛОЖЫН

**Пералік аўтадарог, якія плануюць адрамантаваць сёлета, размясцілі на сайце Мінаблдарбуда.**

### У Вілейскім раёне

1. Н-8171 Куранец – Любань – Шэметава км 2,350 – км 7,250
2. Н-8216 Паняцічы – Кобузі – Вязынь – Селішча – Буйлі, км 27,6
3. Н-8186 Жары – Паляны – Сцешыцы, км 0,6
4. Н-8187 Цярэшкі – Добравічы, км 4,6
5. Н-8232 Курнікі – Муляры – Золькі, км 0,15
6. Н-8190 Партызанскі – Куляшы – Лоўцавічы – Лукавец, км 10,35
7. Н-9119 Радашкавічы – Загорцы – Карпавічы, км 17,13

### У Валожынскім раёне

1. Н-22458 Пад'езд да вёскі Ракаў ад аўтадарогі М-6/Е 28 Мінск – Гродна – мяжа Рэспублікі Польшча (Брузгі) (вуліца Мінская)
2. Н-8244 Ракаў – Караблі – Хажова, км 11,1
3. Н-8255 Караблі – Гіравічы – Ракаў, км 22,1
4. Н-22476 Пад'езд да Аўгустова ад пад'езда да Валожына ад а/д М-7/Е 28 Мінск – Ашмяны – мяжа Літоўскай Рэспублікі (Каменны Лог), км 0,8
5. Н-8315 Гародзькі – Лістапады, км 2,9
6. Н-8255 Караблі – Гіравічы – Ракаў
7. Н-8331 Ракаў – Івянец – Дзяржынаў (вёска Міхалова)

### У Маладзечанскім раёне

1. Н-9105 Лебедзева – Маліноўшчына, км 2,52 (вёска Маліноўшчына)
2. Н-9132 Краснае – Відзеўшчына – Белева км 0,058 – км 1,600
3. Н-9134 Крыніца – Выверы – Раеўшчына, км 2,066 – км 4,013; км 8,620 – км 8,773
4. Н-9098 Палачаны – Вялікае Сяло – Лебедзева, км 6,0 – км 11,3
5. Н-9091 Маладзечна – Хажова – Ермакі, км 5,000 – км 5,300
6. Н-9091 Маладзечна – Хажова – Ермакі, км 9,000
7. Н-9104 Маркава – Клочкава – Парэчча, км 10,0
8. Н-9093 Хоўхлава – Дворышча, км 0,0 – км 2,135, км 5,335 – км 9,4
9. Н-9120 Радашкавічы – Ракаў (вёска Уша-2)
10. Н-9119 Радашкавічы – Загорцы – Карпавічы

### На Мядзельшчыне

1. Н-9235 Будслаў – Альжуткі – Русачкі, км 8,200 – км 10,800
2. Н-9272 Нарач – Ляшчынск – Рапяхі – Чучаліца, км 0,800 – км 2,700; км 5,000 – км 5,700
3. Н-9202 Ліпава – Сваткі – Вузла, км 10 (лева)

**Паводле minskobldorstroy.by.**

## Ад першага сакавіка забараняюць лавіць шчупака

**Адным з асноўных насельнікаў нашых вадаёмаў з'яўляецца шчупак звычайны. Ранняй вясной, калі пачынаецца раставанне лёду, шчупак выходзіць на водмель, каб адкласці ікру.**

Нераст праходзіць даволі бурна. Ікру шчупак адкладае на леташнія расліны. Працягласць нерасту залежыць ад умоў надвор'я і ў першую чаргу ад тэмпературы вады. Мінімальная тэмпература вады для нерасту шчупака складае +4. Пры спрыяльных умовах надвор'я нераст праходзіць некалькі дзён.

Адна самка шчупака адкладае ад 4, 5 да 240 тысяч ікрынак. Маляўкі з ікры з'яўляюцца праз 8-12 дзён пасля нерасту. У апошні час у Мядзельскую міжраённую інспекцыю аховы жывёльнага і расліннага свету пачасціліся званкі ад рыбаловаў-аматараў аб нібыта існуючым пераносе забароны на лоўлю шчупака.

Таму нагадваем усім рыбаловам аб тым, што забарона на лоўлю шчупака ўсталяваная Правіламі вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства.

У Беларусі лавіць шчупака забаронена ад першага сакавіка па 15 красавіка, а па Віцебскай вобласці – ад дзявятага сакавіка па 25 красавіка.

Заканадаўчымі актамі Рэспублікі Беларусь устаноўленая адказнасць за парушэнне Правілаў вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства. Так, за незаконную здабычу рыбы ў перыяд забароны, шкоду спаганяюць у трохразовым памеры.

За кожнага незаконна здабытага шчупака прыйдзецца заплаціць 229 рублёў 50 капеек. Акрамя таго, парушальніка прыцягнуць да адміністрацыйнага штрафу ад 20 да 50 базавых велічынь (ад 510 да 1275 рублёў), а ў выпадку прычынення шкоды ў памеры сто і больш базавых велічынь (12 і больш асобін шчупака ў перыяд яе забароны) надыходзіць крымінальная адказнасць. У дадзеным выпадку пакаранне больш суровае, аж да пазбаўлення волі на тэрмін да трох гадоў.

Калі вы не абыякавыя да прыроды роднага краю і вам стануць вядомыя факты парушэння прыродаахоўнага зака-

---

**ЛІЧБА НУМАРА**

**9 501 282**

СТОЛЬКІ ЧАЛАВЕК ЖЫВЕ Ў БЕЛАРУСІ, ЛЮТЫ 2019

ПАВОДЛЕ COUNTRYMETERS.INFO

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 21.02 | 28.02 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.1455 | **2.1385** |
| Еўра | 2.4349 | **2.4339** |
| Злоты, 10 | 5.6135 | **5.6482** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.2610 | **3.2521** |
| Грыўня, 100 | 7.9247 | **7.9410** |
| **Курсы ў «Банку БелВЭБ»** | **20.02** | **27.02** |
| Еўра | 2.4250/2.4420 | 2.4180/2.4370 |
| Долар ЗША | 2.1400/2.1580 | 2.1320/2.1470 |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 20.02 | 27.02 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 19,80 | **18,99** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,80 | **3,99** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,21 | **7,21** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 10,00 | **10,00** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,70 | **4,70** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 5,40 | **5,50** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,15 | **1,15** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,85 | **1,85** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,15** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,80 | **1,80** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,00 | **2,00** |
| Агуркі, 1 кг | 3,90 | **6,50** |
| Баклажан, 1 кг | 8,90 | **6,00** |
| Бульба, 1 кг | 0,50 | **0,50** |
| Буракі, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Капуста, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,95 | **2,30** |
| Морква, 1 кг | 0,99 | **0,99** |
| Памідоры, 1 кг | 2,90 | **4,95** |
| Перац, 1 кг | 6,50 | **6,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Часнок, 1 кг | 4,90 | **4,50** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,00 | **4,90** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,30 | **3,30** |
| Бананы, 1 кг | 2,50 | **1,70** |
| Вінаград, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Гранат, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Грушы, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Ківі, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Лімоны, 1 кг | 3,30 | **3,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 2,90 | **2,90** |
| Хурма, 1 кг | 4,90 | **5,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,45 | **1,45** |
| Грэцкі арэх, ядро, 1 кг | 25,00 | **25,00** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Кіроўца збіла школьніцу і адвезла яе ў музычную школу

МАЛАДЗЕЧНА

Пра гэта карэспандэнту нашай газеты паведаміў дзяржаўтаінспектар ДАІ **Сяргей Бартош**.

Пра тое, што ў бальніцы знаходзіцца школьніца з траўмамі, атрыманымі ў ДТЗ, у міліцыю паведамілі 21 лютага.

Падчас разбіральніцтва міліцыянеры высветлілі, што аварыя здарылся 20 лютага каля 17:00. 41-гадовая жанчына на Hyundai i30 каля дома 71 на вуліцы Замкавай збіла вучаніцу 9 класа. Дзяўчына пераходзіла дарогу па нерэгуляваным пешаходным пераходзе злева направа па ходзе руху аўтамабіля.

Кіроўца нічога не паведаміла пра здарэнне ў ДАІ і адвезла дзяўчыну ў музычную школу.

Назаўтра пацярпелую з траўмамі паклалі ў хірургічнае аддзяленне бальніцы. Міліцыя праводзіць праверку.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Жанчына штурхнула мужчыну, той ударыўся галавой і памёр

АСТРАВЕЦ

Яны былі знаёмыя: жанчыне – 60 гадоў, мужчыну – 63 гады. Сустрэліся на вуліцы, мужчына быў ужо п'яны. Жанчына штурхнула яго, той упаў і моцна стукнуўся галавой аб бетон.

Здарэнне адбылося напрыканцы мінулага тыдня, паведамляе абласная міліцыя.

Праўда, ён змог падняцца. Але падзенне не прайшло бясследна, у выніку закрытай чэрапна-мазгавой траўмы праз два дні памёр у сябе дома. У дачыненні да жанчыны распачатая крымінальная справа па артыкуле «Прычыненне смерці па неасцярожнасці».

**Паводле УУС Гродзенскага аблвыканкама.**

● УВАГА, ВЫШУК!

## Вілейская міліцыя шукае жыхара Мядзела

МЯДЗЕЛ
ВІЛЕЙКА



Вілейскі РАУС шукае без звестак зніклага 28-гадовага **Аляксандра Мікалаевіча Мацюшонка**, ураджэнца і жыхара Мядзела.

15 лютага каля дзесяці гадзін раніцы мужчына выйшаў з дачнага дома ў вёсцы Талуць, што на Вілейшчыне, і да гэтага часу месца яго знаходжання невядомае.

**Прыкметы:** на выгляд 27 гадоў, рост 170-175, спартыўнага целаскладу, кароткія чорныя валасы, зялёныя вочы, шчацінне на твары. Памер абутку 42-43.

**Асаблівыя прыкметы:** на левым знешнім баку перадплечча – абстрактная татуіроўка.

Ужывае спіртныя напоі, курыць.

**Быў апрануты:** шэрая вязаная шапка, такога ж колеру дэмісезонная куртка, чорная майка з кароткімі рукавамі, цёмна-сінія джынсы, цёплыя чорныя красоўкі.

Калі вам стане вядома, дзе знаходзіцца зніклы мужчына, паведаміце, калі ласка, у Вілейскі РАУС па тэлефонах: **8(01771)5-26-02, 8(029) 380-82-28** або **102**.

**Аддзел інфармацыі.**

## З'ехаў у Францыю і знік. Маладзечанца шукае міліцыя

МАЛАДЗЕЧНА



Маладзечанскі РАУС шукае зніклага **Паўла Уладзіміравіча Ганчарова** 1975 года нараджэння. У 1999 годзе ён паехаў у Францыю, ад 2004 перастаў выходзіць на сувязь.

Мужчына – жыхар і ўраджэнец Маладзечна. Жыў па адрасе: Вялікі Гасцінец, 68-17.

**Прыкметы на момант знікнення:** на выгляд 27-30 гадоў, рост 185-190 сантыметраў, худы, блакітныя вочы, светла-русыя хвалістыя валасы.

У чым быў апрануты, невядома.

Маладзечанская міліцыя пераканаўча просіць грамадзян, якім нешта вядома пра месцазнаходжанне зніклага, патэлефанаваць у Маладзечанскі РАУС на нумары: **8 (0176) 771656, 8(029) 5464044, 8(029)5554971** або **102**.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота profilia.ru.

Жанчына пастукала ў дом, дзе ў позні час гарэла святло.

# За лжывы данос пра згвалтаванне віляйчанку будуць судзіць

ВІЛЕЙКА

**25 лютага пракуратура Вілейшчыны накіравала крымінальную справу ў суд.**

Абставіны справы карэспандэнту расказаў намеснік пракурора Вілейшчыны **Андрэй Жукоўскі**:

– Летась 24 кастрычніка ў адным з дамоў Вілейкі адпачывала вялікая кампанія. Выпівалі. Сярод іх была і 36-гадовая фігурантка. У кампаніі жанчыну пакрыўдзілі. Яна вырашыла адпомсціць. Пайшла па вуліцы, зайшла ў адзін з дамоў, дзе гарэла святло, і папрасіла гаспадара, каб той паведаміў у міліцыю, што яе згвалтавалі і скралі сумачку. Мужчына перапытаў, ці ўпэўненая яна ў тым, што кажа. Жанчына адказала, што ўпэўненая. Тады гаспадар выклікаў міліцыю.

Калі міліцыянеры прыехалі на месца, жанчына працягвала настойваць на сваім. Але ў хуткім часе высветлілася, што згвалтавання не было. Сумачку таксама не кралі. Жанчына сама забылася яе ў кампаніі.

Цяпер за лжывы данос ёй пагражае да пяці гадоў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Пакеты з наркотыкам гандляр выкідаў праз акно

МАЛАДЗЕЧНА

**Аператыўнікам аддзела па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі Маладзечанскага РАУС паведамілі, што ў раёне з'явіўся прадавец марыхуаны.**

Пры затрыманні гандляр пачаў выкідаць пакеты ў акно. У агульнай складанасці канфіскавалі каля 1,5 кілаграма.

Гандляр – 20-гадовы ўраджэнец Чысці. Малады чалавек нідзе не працаваў, раней да крымінальнай адказнасці не прыцягваўся.

Па словах начальніка аддзела **Сяргея Руткевіча**, у поле зроку супрацоўнікаў трапіў не толькі прадавец, але і адзін з пакупнікоў. Яго затрымалі першым пасля незаконнай здзелкі. У 25-гадовага мясцовага жыхара быў пакет з раслінным рэчывам. Як аказалася, гэта была марыхуана масай больш за тры грамы.

Следам за пакупніком у поле зроку аператыўнікаў трапіў і сам гандляр.

Калі міліцыянеры званілі яму ў дзверы, пакеты з наркотыкам малады чалавек выкідваў праз акно.

У яго кватэры аператыўнікі знайшлі каля 14 грамаў раслiннага рэчыва. А больш вялікую партыю зелля аператыўнікі знайшлі пад акном. Падчас вобшуку ў падвале знайшлі яшчэ некалькі пакетаў з марыхуанай.

Усяго канфіскавалі каля 1,5 кілаграма наркотыку. У аператыўнікаў ёсць падставы меркаваць, што затрыманы мае дачыненне да збыту наркотыкаў. Прычым не толькі ў сваім пасёлку.

Рэалізоўвалася зелле выключна ў пэўным коле знаёмых. Як гандляр набываў наркотыкі, высвятляюць.

Цяпер галоўны фігурант пад вартай. Яму пагражае пазбаўленне волі ад 8 да 15 гадоў.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## У Пляснянцы знайшлі труп мужчыны

ВІЛЕЙКА

Пра гэта «Рэгіянальнай газеце» расказалі ў Вілейскім РАУС.

Пра знікненне віляйчаніна **Сяргея Б.**, мы пісалі ў канцы мінулага года. 23 лютага мясцовыя жыхары знайшлі яго ў Пляснянцы недалёка ад вуліцы Лаўрыновіча.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Ноччу гарэў дом. Гаспадароў пабудзіў сабака

ВІЛЕЙКА

Пажар здарыўся ноччу 21 лютага ў вёсцы Дзядзічы Любанскага сельсавета. Выратавальнікам паведамілі каля 1:30. Тэлефанавала гаспадыня, якая расказала, што ў яе доме гарыць дах.

Выратавальнікі патушылі полымя на гарышчы дома. Страты мінімальныя, ніхто не пацярпеў. Як расказалі карэспандэнту ў Вілейскім РАНС, папярэдняя прычына – няправільнае выкарыстанне печкі. Верагодна, была трэшчына ў коміне.

Пажарнага апавяшчальніка ў доме не было. Па словах гаспадароў, ноччу іх пабудзіў сабака, які пачаў моцна брахаць.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Рэпетытар па матэматыцы: «На камфортным жыцці не эканомлю»

**Рэпетытар па матэматыцы з Баранавічаў распавяла, чаму сышла са школы, колькі зарабляе, чаму не эканоміць ваду і электрычнасць і на што адкладае грошы.**




У дзяцінстве я не задумвалася, кім хачу быць, калі вырасту.

**У старэйшых класах вырашыла, што хачу быць настаўнікам: мае школьныя педагогі заўсёды былі для мяне прыкладам, і мне сапраўды гэтак жа хацелася стаць прыкладам для іншых дзяцей.**

Я падала дакументы ў інстытут на настаўніка матэматыкі. Абраная спецыяльнасць мне падабалася, хоць, вядома, пакуль ты студэнт, зразумець спецыфіку працы складана.

Пасля ВНУ пайшла працаваць у школу. У Баранавічах месца не знайшлося, таму першыя чатыры гады вучыла дзяцей у сельскай школе. Калі з'явілася магчымасць перайсці ў горад, адразу ж ёю скарысталася.

**Адпрацаваўшы ў школе больш за 20 гадоў, стамілася. Нават не ад выкладання, а ад незацікаўленасці большасці дзяцей у вучобе.**

Сем гадоў таму звольнілася. Крыху адпачнуўшы, вырашыла паспрабаваць сябе ў рэпетытарстве. Матэматыка – запатрабаваны ў абітурыентаў прадмет: яна патрэбная для паступлення на эканамічныя і інжынерныя спецыяльнасці.

### Праца – толькі ў другой палове дня

Маімі першымі кліентамі сталі былыя вучні. Першы год было складана: падрыхтоўка да ЦТ і ўрокі ў школе – розныя рэчы. Але паспяховае паступленне вучняў стала стымулам працягваць і далей займацца рэпетытарствам.

**Я не афармляла ІП. Працую па заяўным прынцыпе, кожны месяц плачу адзіны падатак. Цяпер гэта каля 30 рублёў.**

Шмат вучняў я не бяру, у гэтым годзе рыхтую да паступлення 10 чалавек. З дзецьмі, якія мацнейшыя, займаюся раз на тыдзень, з тымі, хто горш засвойвае праграму ў школе, – два разы. Цана за адзін занятак – 15 рублёў, у месяц выходзіць 800.

Сваім прыбыткам задаволеная, бо працую толькі ў другой палове дня. У школе за гэтыя грошы трэба было б працаваць увесь дзень.

### Рыбу ядзім тры разы на тыдзень

Самы вялікі артыкул выдаткаў – прадукты. У мужа панкрэатыт, таму страў з крамнай кулінарыі і паўфабрыкатаў у нас дома не бывае.

Тры разы на тыдзень ядзім рыбу: часам на рынку купляю карпа, у крамах бяру філе белай рыбы, чырвоную. Вядома, зручней было б браць філе і чырвонай, але цэлая рыба абыходзіцца амаль удвая танней. Купляем курэй, хоць бы раз у месяц рыхтую ялавічыну або трусяціну – вельмі карысна.

Прысмакі бяру толькі па вялікіх святах і калі прыязджаюць унукі. Мужу салодкага нельга, а для мяне няма нічога смачнейшага, чым чай з варэннем. Затое праз дзень купляю свежую гародніну, садавіну і малочку.

**У краму хаджу 3-4 разы на тыдзень і бяру прадукты на некалькі дзён. Купіць нешта «пра запас» магу толькі па акцыях – іх я пастаянна адсочваю ў інтэрнэце.**

Яшчэ ў мяне ёсць дысконтныя карты двух магазінаў каля дома. Калі ёсць магчымасць зэканоміць без шкоды для сябе, то ёю трэба карыстацца.

### Абутак – толькі скураны

Не менш істотны артыкул выдаткаў – камунальныя плацяжы. За двушку цяпер выходзіць 90 рублёў. Мы з мужам не эканомім ні святло, ні ваду. Пасля 1990-х, калі даводзілася адмаўляць сабе ва ўсім, на камфортным жыцці не эканомлю.

40 рублёў сыходзіць на мабільныя размовы (па 20 рублёў на кожнага), яшчэ 25 аддаю за інтэрнэт і лічбавае тэлебачанне. Многія мае равеснікі не падключаюць інтэрнэт, навіны глядзяць па тэлевізары. Але для мяне ён неабходны – там я шукаю задачы для дзяцей, стасуюся з калегамі.

Адзенне купляем рэдка: носім, што купілі раней. Вядома, для нейкай урачыстасці набываем «парадныя» камплекты, але паўсядзённых рэчаў у нас дастаткова.

**З абновак – пераважна абутак і верхняе адзенне. У маім узросце эканоміць на гэтым смешна, бо гэтыя рэчы бярэш не на адзін год. Абутак выбіраем толькі скураны, даўгавечны.**

У месяц на абноўкі сыходзіць 50 рублёў.

### Танная касметыка і дарагія крэмы

З дзецьмі я займаюся ў сябе дома, таму ў кватэры павінны быць парадак. Для гэтага ў мяне ёсць шмат бытавой хіміі. Купляць яе ў Баранавічах дорага, таму ўсё – ад зубной пасты да пральных парашкоў – прывозіць сын з Польшчы. Штомесяц на гэта я аддаю 40 рублёў.

**З узростам стала менш карыстацца касметыкай, але выглядаць добра ўсё роўна хочацца. У мяне заўсёды ёсць памада, туш і цені, але не ад дарагіх вытворцаў. На іх я вылучаю 10 рублёў у месяц.**

Раз у паўгода купляю флакон туалетнай вады за 60 рублёў. А вось на касметыку для догляду не эканомлю. Бяру сабе добрыя антыўзроставыя крэмы і сыроваткі. Раз на месяц хаджу ў цырульню, заўсёды толькі да майстра. За стрыжку плачу 15 рублёў.

### Штомесяц стараемся хоць трохі адкласці

Мы з мужам заўсёды стараемся хоць бы трохі адкласці на «чорны дзень». Па-першае, з-за праблем са здароўем не ведаем, калі могуць спатрэбіцца дарагія лекі.

**Па-другое, раз на год хочацца з'ездзіць у санаторый ці хаця б пахадзіць на платныя працэдуры. І сыну трэба дапамагчы.**

Сумы зберажэнняў памяншаюцца зімой, калі ўзрастае камуналка.

**Кацярына БУБЕН,**
**«Інтэкс-прэс».**

● КАЛЯНДАР

1 САКАВІКА

**1960.** Памёр **Віктар Шутовіч**, беларускі каталіцкі святар, культурны дзеяч, вязень савецкіх канцлагераў. Нарадзіўся 27 кастрычніка 1890 года ў в.Шутавічы, Ашмянскі павет. Быў асуджаны польскімі ўладамі за казанні на беларускай мове. З вясны 1944 да 1945 служыў у мінскім Чырвоным касцёле.

2 САКАВІКА

**1562.** Нарадзіўся **Крыштаф Мікалай Дарагастайскі**, дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, доктар медыцыны, заснавальнік друкарні мяст. Ашмяна Мураваная (цяпер Муравана-Ашмянка, Ашмянскі раён). Аднак факт існавання гэтай друкарні выклікае сумненні, бо, акрамя твора «Цэнзура» кальвінскага прапаведніка Войцеха Салінарыюса, не захавалася ніводнай кнігі з выхаднымі дадзенымі «Ашмяны».

3 САКАВІКА

**1918.** У Брэсце падпісаная мірная дамова паміж Савецкай Расіяй і Германіяй, паводле якой Беларусь страціла значную частку сваёй тэрыторыі.

4 САКАВІКА

**1812.** Памёр **Яўхім Храптовіч**, грамадскі і дзяржаўны дзеяч ВКЛ, апошні канцлер вялікі літоўскі (1793–1795)., публіцыст, паэт, перакладчык. Прадстаўнік роду Храптовічаў.

**1890.** Нарадзіўся **Вінцук Адважны** (сапр. Язэп Германовіч; мястэчка Гальшаны, цяпер Ашмянскі раён), каталіцкі святар, беларускі пісьменнік, паэт, дзеяч эміграцыі ў Італіі і Вялікабрытаніі.

5 САКАВІКА

**1896.** Нарадзіўся **Кандрат Крапіва** (сапр. Кандрат Атраховіч), драматург, паэт, мовазнаўца, грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік Беларусі (1956).

**1985.** У Гданьску памёр **Тодар Куніцкі**, адзін з заснавальнікаў Беларускага студэнцкага саюза ва ўніверсітэце Стэфана Баторыя ў Вільні і Беларускага сялянскага саюза. Доктар, скончыў медыцынскі факультэт універсітэта Стэфана Баторыя. Нарадзіўся 14 мая 1899 года ў вёсцы Павязынь каля Маладзечна.

**2000.** У Мінску трапіў пад машыну і загінуў Мікола Ермаловіч, беларускі публіцыст, крытык і літаратуразнаўца, заснавальнік новай беларускай рамантычнай гістарыяграфіі, аўтар і выдавец непадцэнзурных тэкстаў 1960–1980-х. Пахаваны на старых могілках у Маладзечне. Нарадзіўся 29 красавіка 1921 года.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Як жыў Івянец у гады Другой сусветнай

ВАЛОЖЫН

**22 чэрвеня 1941 года савецкае кіраўніцтва спешна пакінула Івянец.**




Славутасцю сённяшняга Івянца з'яўляецца касцёл святога Аляксея. Пабудаваны ў пачатку мінулага стагоддзя, ён быў маўклівым сведкам абедзвюх войнаў.

Вось што ўспамінае **Яніна Гарбач**, тагачасная мясцовая жыхарка. Успаміны захоўваюцца ў яе ўнука **Адама Вішнеўскага**. Мне іх перадаў польскі гісторык **Станіслаў Карлік**.

## Савецкія чыноўнікі пакідалі Івянец

«У суботу расіяне загрузілі машыны сваімі рэчамі і цэлымі сем'ямі ноччу з суботы на нядзелю пакідалі Івянец.

22 чэрвеня **Насек**, муж Яніны Гарбач – **Ігнацы** (тут і далей заўвагі аўтара), ідучы да касцёла, пачуў як па радыё Сталін аб'явіў пра вайну з немцамі (пані Яніна памыляецца. Па радыё 22 чэрвеня выступаў Молатаў). Ён казаў, што немцы напалі нечакана. Пасля гэтага ўключыліся немцы і сталі расказваць пра Сталіна.

Сярод расіян, якія яшчэ заставаліся ў Івянцы, узнікла паніка. Яны пакінулі Івянец у панядзелак. Па начах уцякала шмат расійскіх салдат. Кожны дзень па вуліцы Пілсудскага (цяпер Камсамольская) праязджалі ваенныя грузавікі. У сераду з аднаго боку ехала руская машына, з іншага з'явілася нямецкая. Яны сустрэліся нос у нос. Рускія адразу ж выскачылі з яе і збеглі. Немцы кінулі гранату ў іх машыну, але не сталі даганяць.

У чацвер рускія войскі адступалі ў спешцы. Таксама паказаліся нямецкія аўтамабілі. Немцы раскідалі ўлёткі для палякаў, каб тыя адзявалі белыя хусткі ці кашулі. Расійскія салдаты беглі праз сады, а за імі палітрук з аўтаматам крычаў, што будзе страляць кожнага, хто будзе адступаць.

У пятніцу, як я помню, загаварылі, што немцы ўжо блізка. Нямецкія самалёты кружылі над Івянцом. Калі на рынку сабралася некалькі яўрэяў, туды скінулі бомбу. Аднаго забілі. Мы схаваліся на жытнім полі. Я бегла з малой Тэрэняй. А Насек з Весяй за намі.

Апоўдні ўсё сціхла, і мы не ведалі, трэба вяртацца ці не. Пад вечар знайшла нас наша гаспадыня, пані Квятkоўская, і сказала, што трэба неадкладна вяртацца, бо ўжо маем гасцей, значыць, немцаў, і што яны будуць страляць кожнага, хто ўвечары будзе на вуліцы».

## Сышлі не ўсе

З савецкай адміністрацыяй сышлі і тыя, хто не хацеў альбо не мог заставацца на акупаванай тэрыторыі. Пераважна гэта былі савецкія і партработнікі з сем'ямі. Але многія не ведалі аб сыходзе і засталіся на месцы, як, напрыклад, **Юры Южык**, сакратар партячэйкі ў вёсцы Суднікі, альбо **Антон Шыкуць**, жыхар вёскі Камень, дэпутат Вярхоўнага Савета. Іх проста забыліся папярэдзіць. Юры Южык праседзеў некалькі месяцаў у мінскай турме СД. А Антона Шыкуця расстралялі ў Івянцы. Месца магілы дагэтуль невядомае.

Немцы ўступілі ў Івянец 28 чэрвеня. Яны адразу ж пачалі ўсталёўваць свой парадак. Уся ўлада належала нямецкаму каменданту, але яны стваралі і грамадзянскую адміністрацыю, на чале якой ставілі і мясцовых калабарацыяністаў. На чале раённай управы стаў нехта **Булак**, які пасля вайны ўцёк у Швейцарыю.

Бургамістрам Івянца прызначылі **Зянона Бурака**. Камендантам паліцыі быў **Стэфан Пазанскі** – унтэрафіцэр былой польскай паліцыі. Курыраваў паліцыю нехта **Нор** – фалькcдойч з Навагрудка.

У былых польскіх казармах улады, якія адказвалі за асвету, стварылі прафесійную школу, якой кіраваў **Карачун**.

## Што рабіў у Івянцы брат Фелікса Дзяржынскага

Утварылі аддзел Цэнтральнай гаспадаркі «Усход», якім кіраваў лейтэнант **Розэ**. Потым ён стаў загадчыкам сельгасаддзела Івянецкай камендатуры.

У аддзеле працаваў **Казімір Дзяржынскі**, брат **Фелікса Дзяржынскага**. Жонка Казіміра, **Люцыя**, працавала перакладчыцай у жандармерыі.

Пачалі набор у паліцыю. Служыць туды ішлі пераважна мясцовыя. Служылі не з-за таго, каб помсціць бальшавікам, а каб зарабіць кавалак хлеба. Ад 1942 года ў паліцыю масава ішлі людзі па заданні польскага падполля, каб у патрэбны час ударыць немцам у спіну. Таксама вядома, што частка паліцэйскіх была з Навагрудка і Полацка. Яны пагадзіліся служыць немцам, але не дома, а ў іншай мясцовасці. Каб у выпадку іх удзелу ў карных аперацыях ім не адпомсцілі людзі. Але знаходзіліся такія, як ветэрынар **Гюнтэр**, які амаль адкрыта супрацоўнічаў з гестапа.

З прыходам немцаў у Івянцы пачалася эпідэмія тыфу. Многа людзей памерла.




Фелікс і Люцыя Дзяржынскія.

## Партызаны ў Налібоках

Амаль адразу ж пасля акупацыі ў Налібоцкай пушчы пачаў разгортвацца партызанскі рух. Арганізоўваць яго сталі афіцэры НКВД, якія добра ведалі мясцовасць і тутэйшых людзей.

Спачатку камандаваў савецкімі партызанамі супрацоўнік НКВД **Сідарук** пад псеўданім палкоўнік **Дубаў**. Намеснікам у яго быў маёр **Васілевіч**. Асобны састаў партызанскіх атрадаў фарміраваўся з салдат-акружэнцаў, якія трапілі ў кацёл у Налібоцкай пушчы. Потым стварылі асобны атрад для палякаў. Камандаваў ім лейтэнант **Клюшкаў**.

У пачатку вайны партызаны толькі збіралі зброю і атакавалі нямецкія калоны з сельгаспрадуктамі. У адказ немцы пачалі праводзіць карныя акцыі – нішчыць людзей і вёскі. Пасля пайшлі ў партызаны і мясцовыя, якія хацелі адпомсціць немцам.

**Ігар СОЛТАН,**
**бібліятэкар**
**Івянецкай бібліятэкі.**

*Працяг будзе.*

● ЗОРКА ТЭЛЕТЫДНЯ

# Дзмітры Бядзерын



Фота kinoas.net

**Акцёр тэатра і кіно. Нарадзіўся 26 студзеня 1990 года ў Кургане. У школьныя гады займаўся музыкай, скончыў музычную школу па класе фартэпіяна. Таксама навучыўся іграць на гітары.**

Пасля атрымання дыплома аб сярэдняй адукацыі паступіў у Чэлябінскую акадэмію культуры і мастацтваў, але правучыўся там усяго адзін курс. Далей вырашыў пакараць сталіцу. Падчас вучобы першы педагог сказаў яму, што калі быць артыстам, то першым, а калі замахвацца, то адразу на Эверэст.

У 2012 годзе скончыў вучэльню імя Шчукіна. Упершыню на экране з'явіўся ў 2008 годзе ў фільме-спектаклі «Белая акацыя». У 2009 годзе дэбютаваў у кіно ў містычнай стужцы «Водбліскі». Пасля зняўся ў фільмах «Тут хтосьці ёсць», «Кодэкс гонару-4» і «Без следу».

У 2012 годзе сыграў галоўную ролю ў меладраме «Любіць нельга забыць». Яго герой – 20-гадовы Мікіта – сустракае 37 гадовую Марыну, разведзеную жанчыну з дзіцем. Малады чалавек з першага погляду ўлюбляецца ў яе і гатовы на ўсё, каб быць з каханай. Марыну таксама цягне да Мікіты, але бяда ў вялікай розніцы ва ўзросце.

Наступнай вялікай работай Дзмітрыя была камедыя «Любіць – не любіць». Ён сыграў аднаго з галоўных герояў – Ягора, сапраўднага мачо.

Усяго на рахунку акцёра ўжо больш за 40 роляў у разнажанравых фільмах і серыялах. З 2017 года з яго удзелам выйшлі такія праекты, як «Пасведчанне аб нараджэнні», «Склifасоўскі-6», «Суфлёр», «Труфельны сабака каралевы Джаваны», «Маё жыццё», «Прыстойная сям'я здасць пакой», «Сорак ружовых кустоў», «Майстар палявання на адзінарога», інш.

Пра сваё асабістае жыццё Дзмітрый аддае перавагу не распаўсюджвацца. Вядома толькі тое, што ён жанаты.







## 8 канал

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 4 МАРТА**

**7.00, 16.00, 19.00, 21.05, 0.55** «Погода».
**7.05, 16.10** «Мульт-парад».
**7.25, 16.05** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«МУЖЧИНЫ В БОЛЬШОМ ГОРОДЕ».**
**9.15** Д/с «Родовые проклятья».
**9.40, 19.05** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.35** Искусство-кино «Альпийская баллада».
**12.20, 20.00** Т/с **«ОПРАВДАННЫЙ».**
**13.10** Х/ф **«ПАЛЬМЫ В СНЕГУ».**
**16.35** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**17.30** Х/ф **«НЕ ЧУЖИЕ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ПОДМЕНА».**
**23.35** Х/ф **«АМАЗОНИЯ».**

**ВТОРНИК, 5 МАРТА**

**7.00, 15.55, 18.55, 21.05, 1.05** «Погода».
**7.05, 16.05** «Мульт-парад».
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«ДЕВЯТЬ ЯРДОВ».**
**9.15** Д/с «Дорога в школу».
**9.40, 19.00** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.30** «Мой любимый питомец».
**11.00** Х/ф **«ШЕРЛОК ХОЛМС И ДОКТОР ВАТСОН».**
**13.10, 20.00** Т/с **«ОПРАВДАННЫЙ».**
**14.00** Х/ф **«ВЕК АДАЛИН».**
**16.30** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**17.25** Х/ф **«ГУСАРСКАЯ БАЛЛАДА».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«МЭВЕРИК».**
**23.10** Х/ф **«МУЖЧИНЫ В БОЛЬШОМ ГОРОДЕ».**

**СРЕДА, 6 МАРТА**

**7.00, 15.55, 18.55, 21.05, 0.40** «Погода».
**7.05** Мульт-сериал.
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«ПРИЛИЧНЫЕ ЛЮДИ».**
**9.05** Д/с «Обучите моего питомца».
**9.30, 19.00** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.30** «Китайский Новый год».
**11.00** Х/ф **«МУЖЧИНЫ В БОЛЬШОМ ГОРОДЕ».**
**13.00, 20.00** Т/с **«ОПРАВДАННЫЙ».**
**13.50** Х/ф **«МЭВЕРИК».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.30** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**17.20** Х/ф **«ТРИ ТОПОЛЯ НА ПЛЮЩИХЕ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ГОЛАЯ ПРАВДА».**
**22.45** Х/ф **«МИСТЕРИУМ. ТЬМА В БУТЫЛКЕ».**

**ЧЕТВЕРГ, 7 МАРТА**

**7.00, 15.55, 19.00, 21.00, 0.35** «Погода».
**7.05** Мульт-сериал.
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«ОПЕРАЦИЯ «Ы» И ДРУГИЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ ШУРИКА».**
**9.05** Д/с «Путешественник».
**9.35, 19.05** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.30** «Рисуя Китай».
**11.00** Х/ф **«МИСТЕРИУМ. ТЬМА В БУТЫЛКЕ».**
**12.50, 20.05** Т/с **«ОПРАВДАННЫЙ».**
**14.15** Х/ф **«ГОЛАЯ ПРАВДА».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.30** «Мой любимый питомец».
**17.00** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**18.50** «Фешн is my профешн».
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«ДОБРОЕ УТРО».**
**23.05** Х/ф **«ВСЕ МОГУ».**

**ПЯТНИЦА, 8 МАРТА**

**7.00, 15.55, 18.55, 21.05, 1.05** «Погода».
**7.05** Мульт-сериал.
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«ДЕВЧАТА».**
**9.15, 16.30** Д/с «Путешествие по городам с историей».
**9.40, 19.00** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.35** Х/ф **«ДОБРОЕ УТРО».**
**12.25** Т/с **«ОПРАВДАННЫЙ».**
**13.10** Х/ф **«ПИРАТЫ КАРИБСКОГО МОРЯ».**
**16.05** «Мульт-парад».
**17.00** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**18.00** «Китайский Новый год».
**18.30** «Мой любимый питомец».
**20.00** Т/с **«ТИХАЯ ПТИЦА».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ПРОСТО ХОРОШО БЫТЬ РЯДОМ».**
**22.50** Х/ф **«ЛЕГЕНДЫ ОСЕНИ».**

**СУББОТА, 9 МАРТА**

**7.00, 18.50, 21.20, 0.55** «Погода».
**7.05** Мультфильмы «Барашек Шон».
**7.15** Д/с «Мифы и чудовища».
**8.00** Мультфильмы «Упс».
**9.25** «Утрямдия».
**9.30** Х/ф **«МОСКВА СЛЕЗАМ НЕ ВЕРИТ».**
**12.00** Х/ф **«ЛЮБОВЬ И ГОЛУБИ».**
**13.45** Х/ф **«РАБА ЛЮБВИ».**
**15.15** «Отвечайка».
**15.20** Смотрим всей семьей: мультфильм «Красная шапка против зла».
**16.50** Х/ф **«МАЛЕНЬКАЯ МИСС СЧАСТЬЕ».**
**18.35** «Друзья дедушки Марко».
**18.55** Х/ф **«СЕРДЦЕЕДКИ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.05** «Фешн is my профешн».
**21.25** Х/ф **«ЖИВИ РАДИ НАС».**
**23.25** Х/ф **«ПРИТВОРИСЬ МОИМ ПАРНЕМ».**

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 10 МАРТА**

**7.00, 15.45, 18.45, 21.05, 0.40** «Погода».
**7.05** Мультфильмы «Барашек Шон».
**7.15** Д/с «Династия».
**8.15** Мультфильмы «Змей Горыныч».
**9.20** «Утрямдия».
**9.25** «Мой любимый питомец».
**10.00** «Китайский Новый год».
**10.25** Т/с **«БЕЗ СРОКА ДАВНОСТИ».**
**12.05** Х/ф **«ЗВЕЗДА ПЛЕНИТЕЛЬНОГО СЧАСТЬЯ».**
**14.50** «Смотрим всей семьей»: «Гарфилд».
**17.40** «Отвечайка».
**17.45** «Друзья дедушки Марко».
**18.00** Т/с **«КАСЛ».**
**18.50** Х/ф **«ЧЕГО ХОТЯТ ЖЕНЩИНЫ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ЛИНКОЛЬН ДЛЯ АДВОКАТА».**
**23.10** Х/ф **«КРАСОТКИ В БЕГАХ».**

## МКТВ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 4 МАРТА**

**6.15** Песня на завтрак.
**6.30** Х/ф **«ЭВОЛЮЦИЯ».**
**9.00** Х/ф **«СУПЕРГЕРОЙСКОЕ КИНО».**
**10.25** Х/ф **«АФЕРИСТЫ ПОНЕВОЛЕ».**
**12.00, 14.50, 18.00, 22.20** Мажорный лад.
**13.00, 20.20** Х/ф **«НА МОРЕ!».**
**15.00** Новости БЖД.
**17.40** Свет души.
**18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**19.20** Мая Радзіма.

**ВТОРНИК, 5 МАРТА**

**5.30, 7.15** Песня на завтрак.
**6.10, 7.50, 8.15, 18.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.25, 22.20** Мажорный лад.
**13.00** Х/ф **«МЕЖДУ АНГЕЛОМ И БЕСОМ».**
**14.00** Х/ф **«ИМЯ».**
**19.20** Золотой фонд края.
**20.20** Х/ф **«ЭВОЛЮЦИЯ».**

**СРЕДА, 6 МАРТА**

**6.05, 7.15, 9.35** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.15** Х/ф **«ЛЕГОК НА ПОМИНЕ».**
**12.10** Х/ф **«СУПЕРГЕРОЙСКОЕ КИНО».**
**14.00** Х/ф **«КРАСОТКА НА ВСЮ ГОЛОВУ».**
**15.50, 22.20** Мажорный лад.
**19.15** Таланты края.
**20.30** Музыкальная открытка.

**ЧЕТВЕРГ, 7 МАРТА**

**6.40, 7.15, 8.15** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.40** Смайлик.
**12.40** Х/ф **«АФЕРИСТЫ ПОНЕВОЛЕ».**
**15.00, 22.20** Мажорный лад.
**19.20** Мая Радзіма.
**20.20** Х/ф **«О ЧЕМ МОЛЧАТ ДЕВУШКИ».**

**ПЯТНИЦА, 8 МАРТА**

**5.20, 7.20, 8.20** Песня на завтрак.
**6.50, 18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00** Новости: время местное.
**10.00** Х/ф **«МОШЕННИКИ».**
**13.10, 15.50, 22.30** Мажорный лад.
**14.30** Х/ф **«ПОВЕЛИТЕЛИ СНОВ».**
**19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**19.30** Мая Радзіма.
**20.30** Музыкальная открытка.

**СУББОТА, 9 МАРТА**

**6.30, 8.40** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 8.30, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**7.30** Будьте здоровы.
**16.15, 21.10** Новости БЖД.
**16.25, 22.30** Мажорный лад.
**19.30** Портрет женщины.
**20.30** Желаем вам.
**21.00** Таланты края.

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 10 МАРТА**

**6.30, 21.50** Мажорный лад.
**8.05** Х/ф **«ПОВЕЛИТЕЛИ СНОВ».**
**9.25** Мая Радзіма.
**11.10** Таланты края.
**11.30** Свет души.
**12.55** Золотой фонд края.
**14.35** Х/ф **«О ЧЕМ МОЛЧАТ ДЕВУШКИ».**
**16.10** Х/ф **«МОШЕННИКИ».**
**18.00** Х/ф **«АФЕРИСТЫ ПОНЕВОЛЕ».**
**20.00** Х/ф **«ЭВОЛЮЦИЯ».**













Вяселлі пачатку другой паловы 20 стагоддзя ў былой Маладзечанскай вобласці.

Большасць вяселляў ладзілі па аднолькавым сцэнары. Гулялі тыдзень усёй вёскай. Абавязкова павінны быць вялікі стол і музыка.

# Калі дзяржава адмовіцца ўтрымліваць прадпрыемствы-зомбі

**Беларускія аналітыкі ўпэўненыя, што час спыніць грашовыя ўліванні ў неэфектыўны дзяржсектар. А замест датацый лепш накіраваць грошы на стварэнне інфраструктуры для бізнесу.**




**Паводле thinktanks.by, стратныя прадпрыемствы і рост цэн былі самымі вялікімі праблемамі ў Беларусі ў 2018 годзе.**

У дзяржсектары сёння хапае негатыўных тэндэнцый. Паводле апошніх дадзеных Нацбанка, на 1 кастрычніка 2018 года доля запазычанасці дзяржпрадпрыемстваў у агульным аб'ёме неабслугоўваных актываў – 58,1%. І калі раней дзяржава магла сабе дазволіць падтрымліваць дзяржсектар, то сёння магчымасці гэтыя вельмі абмежаваныя.

На апошняй нарадзе з эканамічным блокам краіны кіраўнік дзяржавы запатрабаваў зрабіць больш жорсткай адказнасць у дачыненні да кіраўнікоў неэфектыўных дзяржпрадпрыемстваў. «Хачу нагадаць: ніякіх паблажак быць не павінна. І хопіць мне ўносіць прапановы па дзесяць разоў па тых прадпрыемствах, якія раней не выканалі абяцанае», – сказаў **Аляксандр Лукашэнка** на нарадзе з урадам, паведамляе яго прэс-служба.

**Прэм'ер-міністр Сяргей Румас падзяляе пазіцыю, што трэба ўвогуле сыходзіць ад дзяржпадтрымкі прадпрыемстваў.**

«Бо па некаторых прадпрыемствах дзяржпадтрымка сапраўды аказваецца ў другі ці трэці раз, таму ўрад зробіць высновы з гэтай сітуацыі», – падкрэсліў ён.

Замежныя эксперты (МВФ і Сусветнага банка) даўно рэкамендуюць беларускаму кіраўніцтву спыніць заганнае рэанімаванне дзяржпрадпрыемстваў і ўкладванне ў іх грошай. Аргумент адзін – неэфектыўны дзяржсектар тармозіць эканамічны рост. З усяго гэтага напрошваецца адна выснова: неаднаразова выпрабаваным у краіне метадам – простым уліваннем грошай у дзяржсектар – праблемы прадпрыемстваў не вырашыць. Праўда, улады ўсё роўна не спяшаюцца дзейнічаць.

### На сацыяльныя аспекты можа не застацца грошай

Упраўляючы партнёр адвакацкага бюро «Леў, Шарстнёў і партнёры» юрыст **Барыс Леў** лічыць, што пераходзіць да канкрэтных дзеянняў уладам сёння не дае сацыяльны аспект. Паводле яго слоў, кіраўніцтва краіны балансуе паміж сацыяльнай абаронай і эканомікай, разумеючы, што калі цяпер спыніць падтрымку нерэнтабельных прадпрыемстваў, то іх можна адпраўляць на банкруцтва. А гэта ў сваю чаргу пацягне вызваленне працоўнай сілы, пасля чаго людзі застануцца без работы.

«Пры гэтым я не лічу, што такі аспект апраўданы, таму што за ўсім гэтым стаіць у тым ліку і прыхаванае беспрацоўе. Людзі лічацца на рабоце, атрымліваюць мінімальны заробак, але пры гэтым яны звязаныя гэтай работай і строяць ілюзіі разам з уладамі, што прадпрыемствы, магчыма, выкараскаюцца і стануць рынкава запатрабаваныя. А што на самой справе? Гэтыя прадпрыемствы незваротна страцілі здольнасць канкурыраваць і фактычна стаяць на ўзбочыне рынкавай эканомікі», – лічыць юрыст. І не трэба за іх трымацца, працягвае ён, трэба даць магчымасць людзям заняцца бізнесам і карміць сябе самім, а не патрабаваць у дзяржавы падтрымкі.

Эксперт схіляецца да таго, што ў дзяржавы праз нейкі час не застанецца грошай займацца сацыяльнымі аспектамі і, у першую чаргу, яна будзе ставіць эканамічныя задачы.

Старшыня Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі **Аляксандр Швец** мяркуе, што да неэфектыўных прадпрыемстваў трэба падыходзіць наступным чынам: глядзець, дзе знаходзіцца прадпрыемства і колькі на ім працуе чалавек. Калі яно размешчанае ў Мінску, на ім працуе трыста-чатырыста чалавек і яно ўвесь час падтрымліваецца з бюджэту, то яго трэба прадаваць альбо закрываць, не думаючы, прапануе эксперт. «Але калі ўзяць гарады, дзе па адным-два прадпрыемствы, на якіх працуе большасць мясцовых жыхароў, то тут трэба зыходзіць з прынцыпу: якое зло горшае, – адзначае Аляксандр Швец.

– Якія выдаткі будуць большыя: на падтрыманне існуючага прадпрыемства альбо на сацыяльную адаптацыю, перанавучанне і стварэнне новых працоўных месцаў цягам нейкага часу пасля яго закрыцця. І пакуль дзяржава не бачыць іншага шляху, апраўдана захаванне прадпрыемства дзеля сацыяльнага складніка.

### Як вызначыць: ці эфектыўнае ці не?

Зразумела, што не ўсе дзяржпрадпрыемствы асуджаныя на няўдачу. Эксперты ўжо прапаноўвалі ацаніць іх на прадмет эфектыўнасці: якія з іх трэба ліквідаваць у сілу іх поўнай нежыццяздольнасці, якія прыватызаваць, а якія яшчэ можа выратаваць рэструктурызацыя менеджменту.

Аднак кіраўнік праекта «Кошт урада» **Уладзімір Кавалкін** даволі песімістычна ацэньвае ўсе тры перспектывы. «Калі мы гаворым аб эфектыўным менеджменце, то тут трэба разумець, што прадпрыемствы кіруюцца, у тым ліку чыноўнікамі і выканкамамі, якія даводзяць паказчыкі, – адзначае эксперт. – Акрамя таго, кіраўніцтва прадпрыемстваў нярэдка займаецца неўласцівымі яму функцыямі: цягне сацыялку, выконвае нейкія неймаверныя даручэнні замест таго, каб зарабляць і прыносіць прыбытак. Эксперт лічыць: які б ні быў гэты спецыяліст ініцыятыўны, з дыпломамі MBA (міжнародная праграма падрыхтоўкі менеджараў), якімі б супер прыватнымі прадпрыемствамі ён да гэтага ні кіраваў, яму прыйдзецца ўбудоўвацца ў сістэму і працаваць, як загадана ў ёй.

Уладзімір Кавалкін не ўпэўнены, што нехта з прыватнікаў захоча прыватызаваць нешта пасля такіх кейсаў, як «Камунарка», «Аршанскі авіярамонтны завод», калі ў апошнім выпадку Лукашэнка вырашыў, што прыватнае прадпрыемства стала за адзін раз дзяржаўным. На думку кіраўніка Кавалкіна, рызыкі тут настолькі вялікія, што выгады гэтыя рызыкі не пакрываюць. Вось чаму рэальны бізнес – той, які «пра грошы зарабляць» – будзе будаваць прадпрыемствы з нуля.

**«Што датычыцца банкруцтваў, то гэты варыянт азначаў бы, што ўлады павінны прызнаць правал усёй эканамічнай мадэлі Беларусі. Банкрутаваць прадпрыемствы, у якія ўкладвалі шмат, гэта як страляць сабе ў нагу. Утрымаць уладу пасля гэтага вельмі складана»,**

– заўважае ён.

### Няма прыбытку – трэба ліквідаваць

Барыс Леў у цэлым не бачыць сэнсу ў стварэнні экспертных камісій для ацэнкі эфектыўнасці дзяржпрадпрыемстваў, каб яшчэ ў дадатак плаціць ім грошы, зноў марнаваць дзяржаўныя рэсурсы, калі на рынку ёсць галоўны крытэр: прыбытак.

«Калі няма прыбытку, то за кошт чаго жыве прадпрыемства? За кошт дзярждатацый. Не будзе датацый – не будзе прадпрыемства. Значыць, калі яны камусьці трэба, прадаць іх. Не трэба – ліквідаваць», – заўважае эксперт.

На думку юрыста, лепш замест датацый накіраваць грошы на стварэнне інфраструктуры для бізнесу. «Трэба дапамагчы стварыць звольненым людзям працоўныя месцы, каб яны маглі сябе знайсці, а не сядзелі на заводзе, атрымліваючы бачнасць заробку», – падкрэслівае Барыс Леў.

**У цэлым жа, ацэньваючы найбольш верагодны варыянт падзей на бліжэйшую будучыню, эксперты сыходзяцца ў меркаванні, што прадпрыемствы і далей будуць згасаць.**

«Перспектыва такая: будуць працягваць існаваць прадпрыемствы-«зомбі» – нібы жывыя, але і адначасова мёртвыя, таму што яны рэальна не працуюць. Плюс яны ўсе закрэдытаваныя, а з даўгамі трэба нешта рабіць. Адпаведна, будуць спробы ўсе даўгі збольшага перакласці на дзяржбанкі, збольшага на бюджэты, мясцовыя і рэспубліканскія, – рэзюмуе Уладзімір Кавалкін.

**Ірына МУРЫНА.**



У фае аддзела занятасці.

# Чаму ў рэгіёне вакансій больш, чым беспрацоўных

## А працы часам не знайсці

**Вілейскі аддзел занятасці вакансій прапануе больш, чым ёсць шукальнікаў. А людзі скардзяцца на тое, што цяжка знайсці працу. Чаму?**

Мы звярнуліся ў аддзел занятасці Вілейскага райвыканкама. Начальнік **Таццяна Цітуленка** растлумачыла:

– На Вілейшчыне амаль заўсёды такая сітуацыя, што вакансій больш, чым шукальнікаў. Але не кожнаму шукальніку падыходзіць прапанаваная праца. Напрыклад, у нас заўсёды не хапае дактароў. Але ж я не магу пайсці працаваць на гэту пасаду, калі не маю адукацыі доктара. Тое ж самае з ветэрынарамі, юрыстамі.

### Вартаўнік – гэта не значыць спаць ноччу на працоўным месцы

Па словах Таццяны Цітуленкі, большая частка з зарэгістраваных у аддзеле занятасці шукае некваліфікаваную працу, якую аддзел не заўсёды і не ўсім можа прапанаваць.

– Ды і тут у людзей свае ўяўленні, – кажа начальнік. – Напрыклад, заўсёды шмат ахвотных працаваць вартаўніком. Нельга, канешне, часаць усіх пад адзін грэбень. Але некаторыя шукальнікі думаюць, што праца вартаўніка заключаецца ў тым, каб спаць ноччу на працоўным месцы.

### Як вакансіі трапляюць у аддзел занятасці

Некаторыя вакансіі затрымліваюцца на сайце на два-тры месяцы, а то і на год. Безумоўна, адна з прычын – незадавальненне прапанаваным заробкам.

– Часам працадаўца спецыяльна прапануе ніжэйшы заробак, – кажа Таццяна Цітуленка. – А чалавек ведае сабе цану, напрыклад, ён – добры бухгалтар. Таму і не хоча ісці на малыя грошы.

Па словах начальніка аддзела, усе вакансіі, што размешчаныя на сайце Вілейскага аддзела занятасці, – актуальныя. На сайт яны трапляюць рознымі шляхамі. Раней працадаўцы прыносілі свае запыты на паперы. Цяпер часцей дасылаюць па электронцы або па факсе. Ёсць спецыяльная форма такога запыту.

Таксама працадаўцы могуць падаць вакансію напрамую на сайт Дзяржаўнай службы занятасці, стварыўшы там уласны кабінет карыстальніка. Часам вілейскі аддзел занятасці бярэ вакансіі адтуль і размяшчае на сваім сайце.

Калі працадаўца знаходзіць чалавека, ён павінны паведаміць пра гэта ў аддзел занятасці. Але на адказнасць тут не заўсёды спадзяюцца. Перыядычна спецыяліст, у якога ёсць час, тэлефануе і ўдакладняе, ці сапраўды ўсе вакансіі актуальныя.

За той час, што Таццяна Цітуленка працуе на сваёй пасадзе, яна пераканалася: не толькі шукальніку цяжка знайсці працу. Не менш цяжка працадаўцу знайсці добрага работніка.

### Якую працу і за колькі прапануюць у Вілейцы

Розныя спецыялісты патрэбныя ў Вілейскі РАУС і РАНС. Тут немалаважны фактар – узрост да 30 гадоў, бо выратавальнікі і міліцыянеры раней сыходзяць на пенсію. Тым, хто пойдзе працаваць участковым міліцыянерам, прапануюць ад 900 рублёў да тысячы. У РАНС – менш: 650 і кіроўцу аўтамабіля, і спецыялісту.

У доследны лягас запрашаюць егера. Абавязкова – досвед працы. Заробак – 700 рублёў. Сюды ж шукаюць лесніка з 450. Праўда, працаваць трэба не ў горадзе, а на вёсцы – у старынкаўскім лясніцтве, што ў Вязынскім сельсавеце. Шукаюць даўно: ад красавіка мінулага года.

Амаль год вісіць на сайце і вакансія інжынера ў мясцовы аддзел капітальнага будаўніцтва. Прапануюць – 506 рублёў.

Ад мая 2018 незапоўненая вакансія педагога-псіхолага ў Вілейскую школу-інтэрнат для дзяцей з парушэннямі маўлення. Заробак – 400 рублёў.

Ад пачатку года некалькі вакансій у Вілейскую ЦРБ: акушэрка, загадчыца, некалькі дактароў, лабарант, медсястра, фельчар. Усім прапануюць па 330.

### Дырэктарам клуба – за 185 рублёў

У Дом культуры ў вёсцы Нарочы, што на Вілейшчыне, шукаюць дырэктара на паўстаўкі. Мы пацікавіліся гэтай вакансіяй.

На працу гатовыя ўзяць толькі чалавека з вышэйшай адукацыяй у галіне культуры. Жылля ў вёсцы не даюць. Заробак 185 рублёў. За 175 рублёў тут жа можна працаваць мастацкім кіраўніком.

### Тыповыя і нетыповыя гісторыі пошукаў вілейчукоў

Мы паразмаўлялі з жыхарамі Вілейкі, якія шукалі або шукаюць працу.

**Валянціна** ў пошуках некалькі месяцаў:

– Мяне не столькі сама праца цікавіць, колькі зручны графік, – дзеліцца набалелым жанчына. – Да нядаўняга часу працавала ў дзіцячым рэабілітацыйным цэнтры. Усё падабалася, толькі вось малых дзяцей не было з кім пакінуць. Бацькоў, якія б маглі дапамагчы, няма. Працу больш для мужчын прапануюць. А ў гандаль я і сама не хачу.

**Наталля**, беспрацоўная ўжо другі год. Гадуюць двух сыноў, жывуць у інтэрнаце на заробак мужа, што працуе на адным з вілейскіх заводаў. Кажа, любіць гатаваць, мае адпаведную спецыяльнасць. Але пакуль нічога для сябе не знайшла.

А гісторыя вілячанкі **Ірыны** вырашылася станоўча. Праз некалькі месяцаў пошукаў знайшла ў Вілейцы працу вахцёра. Кажа, грошы невялікія. Але задавальняе зручны графік. Ды і сама наяўнасць працы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

## Як праходзіць перадсезонная падрыхтоўка ФК «Смаргонь»

СМАРГОНЬ

ФК «Смаргонь» 16 лютага на стадыёне ДЮСШ па футболе ў рамках перадсезоннай падрыхтоўкі сустракаўся з дублёрамі салігорскага «Шахцёра». Сустрэча завяршылася нічыёй – 4:4.

У паядынку гульцы «Смаргоні» вялі 4:1, але ў канцы матча госці ўсё ж скарацілі разрыў у ліку. У вароты «Шахцёра» два мячы адправіў **Віталь Ганіч**, адзін гол забіў **Ягор Піцык** і адзін мяч госці забілі самі сабе.

22 лютага ФК «Смаргонь» гасцяваў у Лідзе, дзе сустракаўся з мясцовай камандай. ФК «Ліда» таксама рыхтуецца да старту чэмпіянату. Але пакуль у гэтай каманды не ўсё складваецца.

Паядынак «Смаргонь» супраць «Ліды» апынуўся для каманды выйгрышным. Гаспадары забілі першымі, але смаргонцы пераламалі ход паядынку. Матч дзякуючы галам **Мікіты Шугункова**, **Віталя Ганіча** і **Уладзіміра Казко** скончыўся ўпэўненай перамогай «Смаргоні» з лікам 1:3.

Шэрагі ФК «Смаргонь» працягваюць папаўняць новыя футбалісты. Клуб аформіў працоўныя дамовы са знаёмым па леташнім выступленні за каманду **Альбертам Капскім**, які другую палову сезона правёў у наваполацкім «Нафтане».

Таксама сёлета ў складзе «Смаргоні» выступіць выхаванец мясцовай ДЮСШ **Дзяніс Гружэўскі**. Ад 2014 да 2017 года гэты футбаліст выступаў за юнацкія каманды «Нёман» (Гродна) і РГУОР, а ад 2017 года – за ФК «Мінск». У 2018 правёў 12 матчаў за дублюючы склад сталічнай каманды, забіў адзін гол. Дзяніс Гружэўскі з'яўляецца ўдзельнікам юнацкай Лігі чэмпіёнаў УЕФА 2018-2019 гадоў. Ад 2016 года рэгулярна прыцягваецца да гульняў за юнацкія зборныя Беларусі: U-17, U-18, U-19. Смаргонскі футбаліст удзельнічаў у адборачным і элітным раўндах чэмпіянату Еўропы сярод юнакоў U-17 (2017 год).

Гульцом ФК «Смаргонь» сёлета стаў **Мікіта Шугункоў**. Вялікую частку кар'еры (2010-2011, 2013-2016, 2018) ён правёў у наваполацкім «Нафтане» (99 матчаў, 5 забітых мячоў). У 2012 годзе гуляў за ФК «Віцебск» (14 матчаў; 3 забітыя мячы), а ў 2017 годзе – за бабруйскую «Белшыну» (18 матчаў, 1 забіты мяч). У новым сезоне абараняць колеры клуба будуць знаёмыя смаргонскім заўзятарам Уладзімір Казко, **Аляксей Лозка і Павел Дзямідчык.**

**Сяргей ЮРЭВІЧ, паводле «Светлага шляху».**

## Астравецкія валейбалісты саступілі лідскаму «Гідэону»

АСТРАВЕЦ

Працягваецца чэмпіянат Гродзенскай вобласці па валейболе. У пачатку лютага астраўчане правялі першую дамашнюю гульню з лідскім «Оніксам», дзе ва ўпартай барацьбе пацярпелі паражэнне з лікам 1:3. Затым з гэтым жа сапернікам валейбалісты сустрэліся на выездзе – і зноў няўдача: тры гульні з лікам 23:25 – і вынік 0:3 на карысць «Онікса».

У мінулую суботу Астравец зноў прымаў у сябе гасцей з Ліды – каманду «Гідэон». З гэтым сапернікам астраўчане ўжо сустракаліся на выездзе – і саступілі яму з лікам 0:3.

Астраўчане, несумненна, хацелі адыграцца за мінулыя паразы – пры ўсіх спартыўных магчымасцях надзею на тое, што дома і сцены дапамагаюць, ніхто не адмяняў.

Гульня была захапляльнай і відовішчнай. Валейбалісты змагаліся адчайна, не шкадуючы сіл, яны адбівалі ўдары сапернікаў і спрабавалі ісці ў наступленне, але ўдача ў гэты дзень была на баку лідскіх гульцоў.

Ад самага пачатку госці павялі ў ліку – на табло вокамгненна мяняліся лічбы на іх карысць. Першая сустрэча завяршылася з лікам 15:25 на карысць лідчан.

Дзве наступныя сустрэчы былі асабліва напружаныя і інтрыгуючыя. Каманды ўсю гульню «наступалі на пяткі» адна адной. Натхнёны першай перамогай, «Гідэон» хутка набіраў ачкі, але астраўчанам тут жа скарачалі адрыў. Ледзь валейбалісты параўноўвалі лік або вырываліся наперад, як госці іх апярэджвалі. У выніку другую сустрэчу гульцы завяршылі з нязначным адрывам на карысць лідскай каманды 22:25. У трэцяй сустрэчы перамогу зноў атрымалі госці – 18:25.

Вынік гульні – 0:3 на карысць «Гідэона».

**Святлана ФЁДАРАВА, паводле «Астравецкай праўды».**



Навучэнкі вучэбна-трэніровачных груп.

# «Замены патрабуюць і акрабатычная дарожка, і скачковы стол»

## Што змянілася за дзесяць гадоў у аддзяленні спартыўнай гімнастыкі

МАЛАДЗЕЧНА

**У ДЮСШ прафсаюзаў «Маладосць» займаецца 109 дзяўчынак. Тут існуе дзевяць груп пачатковай падрыхтоўкі і шэсць – вучэбна-трэніровачных. А таксама чатыры – аздараўленчыя.**

За апошнія дзесяць гадоў з'явіліся накладка для бервяна, пераНакладзіна для работы ў лямках для палягчэння вывучэння складаных элементаў. Змянілі паралонавыя ямы. Закупілі новыя паралонавыя маты.

Але шмат чаго не хапае. Няма гімнастычнага дывана для вольных практыкаванняў. Няма і свабоднай плошчы для яго, таму гімнастычныя элементы робяць на маленькай пляцоўцы. Акрабатычныя выконваюць, у асноўным, на акрабатычнай дарожцы. Але яна настолькі старая, што патрабуе замены. Скачковы стол таксама варта набыць новы.

### Працуюць на «рэтра»-абсталяванні

– Трэба ўсталяваць спецыяльныя сучасныя маты, якія не трэба пастаянна перасоўваць. Не перашкодзіла б высокая перакладзіна для работы ў лямках. Мосцікі. У нас ужо «рэтра»-абсталяванне, і даводзіцца на гэтым працаваць, – кажа трэнер аддзялення спартыўнай гімнастыкі **Ія Гарбунова**. – Канешне, траўмы заўжды былі і ёсць, але іх няшмат, і звязаныя не толькі з абсталяваннем.

Хаця цяпер шмат розных прыстасаванняў, якія дапамагаюць папярэджваць траўмы – лонжы, спецыяльныя накладкі, сучасныя маты – у школе іх няма. Трэнеру даводзіцца самому дапамагаць дзяцям.

### Бацькі дапамагаюць грашыма

Усе групы штомесяц плацяць добраахвотныя апякунскія ўнёскі на ўмацаванне матэрыяльна-тэхнічнай базы. Сума – пяць рублёў. Па словах трэнера аддзялення спартыўнай гімнастыкі **Валянціны Канарэйкінай**, ніхто з бацькоў не адмаўляецца ад аплаты.

– Бацькі разумеюць, гэта – укладанне ў дзяцей. За іх набываюць рэчы, ездзяць на спаборніцтвы. Рэчы для гімнастычных практыкаванняў купляюць і асабіста для сваіх дзяцей.

Напрыклад, накладка для працы на брусах каштуе каля 55 рублёў. Купальнік – ад 30 рублёў да 160. Больш дарагія набываюць звычайна для выступленняў.

У гімнастычнага аддзялення няма асабістага рахунку. Грошы, атрыманыя за заняткі ў аздараўленчых групах, ідуць у агульную касу ДЮСШ. Гэта комплексная школа ўключае басейн, гарадкі і спартыўную гімнастыку. У залежнасці ад патрэбаў грошы выдзяляюць на рэчы, неабходныя ў дадзены момант.

Але, нягледзячы на адсутнасць неабходнага гімнастычнага абсталявання, дзеці ўдзельнічаюць у спаборніцтвах рознага ўзроўню. Ад 4 да 7 лютага, напрыклад, каманда школы выступала на рэспубліканскай спартакіядзе ДЮСШ, што праходзіла ў Гродне.

### Чаму сыходзяць з гімнастыкі

Спартыўная гімнастыка – сілавы від спорту. Па словах Гарбуновай, з часам напаўняльнасць груп памяншаецца. У старэйшых групах застаецца адзінкі.

– Навучэнцы штогод здаюць кантрольныя нарматывы, па выніках якіх пераводзяцца на наступны год. Калі дзіця іх не здае, яго адлічваюць. Таксама нехта сыходзіць з-за таго, што даводзіцца абіраць паміж школай і заняткамі гімнастыкай. Бо не паспявае па часе. Некаторыя не вытрымліваюць цяжкіх нагрузак у зале.

Першыя два гады навучання – усебаковае фізічнае развіццё і вывучэнне базавых элементаў гімнастыкі. Развіваюць такія якасці, як сілу, спрытнасць, хуткасць, гнуткасць. Потым дзеці пачынаюць мэтанакіравана займацца гімнастыкай.

Гарбунова кажа, ад пачатку глядзяць прыродныя якасці дзіцяці. Калі-нікалі рэкамендуюць бацькам перавесці дзяцей у аздараўленчую групу. Але часам вучні, якія спачатку не вылучаліся схільнасцямі, за некалькі месяцаў пачынаюць паказваць станоўчыя вынікі. А «моцныя», на першы погляд, аказваюцца лянівымі і часта хварэюць. У любым выпадку, да кожнага выкарыстоўваюць індывідуальны падыход.

А трэнеры ўпэўненыя, у гімнастыцы застаюцца самыя стойкія маральна і тыя, хто сапраўды палюбіў гімнастыку. Нават калі даводзіцца займацца ў спартанскіх умовах.

**Таццяна КАСЬЯН.**
**Фота аўтара.**

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

4. У любым пункце Арменіі ты бачыш яе.
6. Запасы, крыніцы.
7. Перарывісты крык, характэрны для некаторых птушак.
8. Напрамак, маршрут.
9. Сельскагаспадарчая ручная прылада ў выглядзе вельмі выгнутага дробна назубленага нажа для зразання злакаў з кораня.
11. Лінейка або табліца з дзяленнямі ў розных прыборах.
12. Затычка для бутэлек і іншай падобнай пасуды.
13. Калі клёцкі ці дранікі беларусы робяць з начынкай з мяснога фаршу, кажуць, што ў гэтай страве ёсць яна.
15. Плады садовых дрэў.
16. Традыцыйны для беларусаў мастацкі аб'ект з саломы, які збірае ў доме ўсю негатыўную энергію.
21. Бакавая частка чэрапа ад вуха да лобнай косці.
22. Арыстакраты ў Старажытным Кітаі павінны былі валодаць «Шасцю мастацтвамі» – ведаць рытуалы, матэматыку, чытаць і пісаць, кіраваць калясніцай, добра страляць з лука. Назавіце шостае неабходнае мастацтва.
25. Абавязковы прадмет у школах Арменіі. Па гэтым прадмеце здаюць экзамен.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Дрэва пад назвай Мафусаіл да 2012 года лічылася самым старажытным на планеце. Дрэва расце ў Каліфорніі і лічыцца, што яму каля 5000 год. Назавіце тып гэтага дрэва.
2. Якуб Колас: «Звоніць, скача, як дзіцятка, Гэты ...-ручаёк. На яго, бы тая матка, Сонца кідае свой зрок».
3. Сястра Эльзы з мультфільма «Халоднае сэрца».
5. Асоба, якая вядзе справаводства, канцылярыю.
8. Шэры заяц.
9. Традыцыйна тамадой на беларускім вяселлі быў менавіта ён.
10. Струнны шчыпковы музычны інструмент старажытных грэкаў, падобны да ліры.
14. Мужчына, які танцуе з дамай, суправаджае яе на гулянні.
16. Яго паляць на масленічным кастры.
17. Майстар па шыцці і рамонце абутку.
18. У Японіі ядуць гэта марское млекакормячае. З мяса робяць суп, японскі шашлык і нават ужываюць сырым. Кажуць, што іх мяса зусім непадобнае да рыбы.
19. Кафэ, чайная.
20. Упершыню яны з'явіліся ў 1892 годзе ў ЗША. Пасля іх апублікавання тыражы газет і часопісаў рэзка скочылі ўверх. Яны і цяпер папулярныя і сталі глебай для многіх твораў мастацтва.
23. Святы агонь у язычнікаў.
24. Некаторы час быў вельмі папулярны такі напой. Гэта востры газіраваны напой разлівалі ў бутэлькі з-пад шампанскага. Ён вельмі дапамагаў ад пахмелля. Назавіце гародніну, з якой рабілі такі карысны прадукт.

## Адказы на крыжаванку з №8

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Цукар. 4. Кароль. 5. Задача. 6. Размова. 9. Гордасць. 13. Пакеты. 14. Збруя. 17. Танзанія. 18. Ігар. 21. Кракаў. 22. Доры. 26. Вільня. 27. Пояс. 28. Марэны.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Бусел. 3. Ратуша. 7. Галава. 8. Ватыкан. 10. Боты. 11. Бітва. 12. Збіцень. 15. Рэклама. 16. Багна. 19. Дэйл. 20. Суд. 23. Жоўты. 24. Робат. 25. Японія. 26. Вокны.



## ГАРАСКОП 1-7 САКАВІКА

**АВЕН.** Стрымлівайце жаданне кагосьці крытыкаваць і шукаць «уласную» праўду, бо гэта псуе жыццё іншым людзям, сабе і нават вашым дзецям.

**ЦЯЛЕЦ.** Добра было б адпачыць удалечыні ад гарадскога шуму і мітусні. Калі вырашылі патраціць грошы на буйныя пакупкі, то не сумнявайцеся, вы будзеце задаволеныя.

**БЛІЗНЯТЫ.** Памятайце, што сабака прыходзіць у дом да поспеху ў кар'еры, а кошка прыносіць з сабой любоў. Можа, вы і не хочаце заводзіць дома ніякай жывёлы, але ўсё ж задумайцеся. Вам у галаву прыйдзе мора ідэй, якія захочацца тут жа ўвасобіць у жыццё. Але не спяшайцеся і нічога не рабіце на скорую руку.

**РАК.** Для вас гэтыя дні будуць звязаныя з рамантычным настроем, прыемнымі знаёмствамі і падзеямі ў асабістым жыцці. Цяпер добра даюцца ўсе справы па доме, таму смела можаце займацца дамашняй гаспадаркай, нават калі раней гэтага пазбягалі.

**ЛЕЎ.** Калі не будзеце звяртаць увагу на здароўе, то ёсць верагоднасць, што не ўсе планы здзейсняцца. А ад таго, як будзеце сябе адчуваць, залежаць шчасце ў асабістым жыцці, поспех, кар'ера.

**ДЗЕВА.** Каб вярнуцца ў рабочы строй, адшукайце ўнутраныя рэзервы. Як толькі вы пераключыцеся, то адразу ж заўважыце, як у вас адкрываецца другое дыханне і з'яўляюцца новыя сілы.

**ШАЛІ.** Звярніце ўвагу на тое, як складваюцца вашы адносіны з блізкімі, таму што цяпер ёсць шанец вырашыць нейкія даўнейшыя праблемы, узнавіць узаемаразуменне. Перыяд спрыяльны, але пахваляваца прыйдзецца. Асноўныя прычыны перажыванняў – сумненні ў сумленнасці людзей, якім вы даверыліся.

**СКАРПІЁН.** Перш чым пускацца ў рызыкоўныя прадпрыемствы, добра падумайце. Ад вашай насцярожанасці і кемлівасці будзе шмат што залежаць у будучыні. Лепш лішні раз усё праверце.

**СТРАЛЕЦ.** Вы проста абавязаныя ўнесці ў сваё жыццё новы струмень! Любыя пачынанні будуць падтрыманыя. І ведайце, што пазітыўныя думкі здольныя збывацца. І не хавайцеся ад уласных праблем. Ёсць рэчы, разабрацца з якімі можаце толькі вы і ніхто іншы.

**КАЗЯРОГ.** Перыяд роўны, спакойны, ён дазволіць узнавіць сілы, заняцца тым, што даўно было запланавана. У вас не хапае веры ў сябе, у тое, што вы шмат што можаце. А вы можаце.

**ВАДАЛЕЙ.** Ва ўласных адносінах слухайце сваё сэрца, толькі яно падкажа вам правільны выхад з любой сітуацыі. Не дазваляйце пабочным асобам умешвацца ў ваша жыццё, бо іх добрыя парады могуць прывесці да плаксівых вынікаў.

**РЫБЫ.** Дні для вас спрыяльныя, але толькі ў тым выпадку, калі вы не будзеце спрабаваць нешта пачаць або займацца актыўнай дзейнасцю. Прысвяціце час сабе, сваім жаданням, марам. Пашукайце ўнутраную гармонію, папесціце сябе. Адключыце разумовы працэс і дазвольце сабе ні пра што не думаць. Абстаноўка дазволіць вам не напружвацца і не марнаваць сілы дарма.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 9 | 3 | | 4 | | 8 | |
| | | 4 | 5 | 7 | | 2 | | |
| 6 | | 1 | 9 | | | | | |
| | | | | 4 | 9 | 8 | | |
| 1 | | | | | | 7 | | 2 |
| 2 | | | | | | | 5 | 6 |
| | 1 | | 8 | 6 | 3 | | | |
| 9 | | | 7 | 5 | | | | 8 |
| 3 | | 5 | | | | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017


## Чытайце праз тыдзень

- Алесь Крыжэвіч калекцыянуе ўсё, што звязана з Нарачанскім краем. Сярод яго экспанатаў – значкі самых розных формаў. Яны маюць не толькі памятнае прызначэнне, але і хаваюць у сабе гісторыю. Займальны аповед пра захапленне Нарачу чытайце ў наступным нумары.



## ПРОСТА АНЕКДОТ

***

Сёння бачыў, як бабулька дапамагала перайсці праз дарогу хлопчыку, які гуляў у смартфоне.

***

23 лютага і 8 сакавіка – гэта кругазварот 200 рублёў у прыродзе.

## Масленіцу ў Вілейцы адзначаць блінамі і ўрачыстым шэсцем

ВІЛЕЙКА

**На свята «Масленка ідзе, вясну з сабой вядзе» вілейчукоў і гасцей горада запрашаюць 10 сакавіка ў 12:00.**

– Калі дазволіць надвор'е – будзем святкаваць у Ніжнім парку на беразе Віліі. Калі ж з-за вады мы не зможам туды заехаць, то адсвяткуем у гарадскім парку на пляцоўцы каля Алеі маці, – расказала карэспандэнту рэжысёр Дома культуры **Алена Холадава**.

Свята адзначаць традыцыйна. Будуць бліны, гандлёвыя рады, гульні і конкурсы, канцэрт.

Ад Дома культуры артысты і гараджане святочным шэсцем пройдуць да галоўнай пляцоўкі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**


Так святкавалі Масленіцу летась.

## Вясновым сонейкам сагрэта «Рэгіянальная газета»



**Падпішыцеся на другі квартал!**
**Падпісацца на «РГ» можна:**

- **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Цiснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

- **на пошце**
- **праз паштальёна**
- **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 4 рублі 20 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 12 рублёў 50 капейкі.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

## 2 сакавіка, субота

**Вецер:** паўночна-заходні, 3-5 м/с




### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВАЛОЖЫН

Мінімальная тэмпература -26,2°С у 2012 годзе
Максімальная тэмпература +7,1°С у 2016 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 5,7 мм у 2000 годзе

Паводле meteoinfo.by.



## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Як лічыце, які самы няўдалы падарунак на 8 Сакавіка?



**Веранiка Гарунова, у дэкрэтным адпачынку:**
– Гадоў шэсць таму да жаночага дня будучы муж пакрэатывіў і падарыў клетку з двума папугаямі, якія не замаўкалі ні днём, ні ноччу. Думаю, гадаванец – не самы лепшы падарунак для чалавека, які да гэтага не гатовы ці папросту не хоча. Ці хоча, але не папугая, да прыкладу, а ката.



**Аляксандр Івашанка, станочнік:**
– Венік дакладна не варта дарыць. І калготкі. Я звычайна дарыў тэлефон і не пакутаваў.



**Ганна Гапонава, у дэкрэтным адпачынку:**
– Думаю, для любой жанчыны горшы падарунак – гэта п'яны муж. Дзякуй богу, у мяне такога не было, заўсёды падарункі радавалі. Не хацелася б сапсаванага настрою на свята і непатрэбных прадметаў у падарунак.



**Максім Варонін, дырэктар будаўнічай кампаніі:**
– Самы няўдалы падарунак – гэта, напэўна, нешта з бытавых рэчаў: патэльня, каструля. Дакладна не трэба дарыць шкарпэткі, трусы і гель для галення.



**Таццяна Кохан, у дэкрэтным адпачынку:**
– Мне на 8 Сакавіка заўжды дарылі грошы са словамі: «Купіш, што захочаш». Грошы – гэта, вядома, добра, але часам хочацца, каб чалавек сам праявіў ініцыятыву і што-небудзь падарыў ад душы.



**Сяргей Крук, мастак:**
– Любы падарунак добры, калі шчыры і з любоўю. Увогуле, трэба хоць часам на працягу года дарыць падарункі асобам жаночага полу, а не толькі на 8 Сакавіка.



**Хрысціна Чобат, у дэкрэтным адпачынку:**
– Лічу, самы няўдалы падарунак – грошы. Чалавек іх дорыць не ад душы, а быццам хоча адкупіцца ад цябе. Добра, што мне не даводзілася іх атрымоўваць. Яшчэ не хацелася б такіх падарункаў, як амаладжальныя сродкі або сродкі для зніжэння вагі ці паляпшэння стану скуры.

**Падрыхтавала Таццяна КАСЬЯН.**


Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4200 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№9 (1244) 1.03.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 330. Падпісана ў друк у 9.00 28.02.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.